


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 28 (28). Слонім. 12 снежня — 18 снежня 1997г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны


# Алег дадому не вярнуўся...



**У аўторак, 9 снежня, усе Глоўсевічы і жыхары навакольных вёсак хавалі Алега Дэйку. Яму было 29 гадоў. Сіротамі засталіся 7-гадовы Ванька і Волечка, якой нядаўна споўнілася 1,5 годзіка.**

**Апошнія сем гадоў Алег працаваў шафёрам у аўтакамбінаце Гроднасельбуд. І раптам не стала маладога мужчыны, сына, бацькі, мужа. Чаму? Як гэта здарылася?**

**Вось што расказала рэдакцыі газеты яго маці Марыя Аляксееўна Дэйка, якая амаль усё жыццё вучыць дзяцей беларускай мове ў Глоўсевіцкай сярэдняй школе.**

**Марыя Аляксееўна гаворыць:**

—У ноч з пятніцы на суботу, у 2.15, у хаце зазваніў тэлефон. Падымаю трубку і чую, як моцна плача нявестка. Што здарылася?! — крычу. Яна кажа, што ў інтэрнат пазваніў нейкі мужчына і сказаў, што Алег мёртвы і кінуў трубку. Ад гэтых слоў у мяне ногі падкасіліся. Аднак, неяк сябе пераадолеўшы, пабегла будзіць зяця Віцю Крата і Алегавага швагра Толіка Аначку. Кажу: дзеткі, хутчэй у Слонім, даведайцеся, што там да чаго. Мне яшчэ не верылася, што з Алегам магло здарыцца нешта страшнае. Перад ад'ездам зяць патэлефанаваў у інтэрнат №3, што на Брэсцкай вуліцы. Там жыве сям'я майго сына. Мужчына, які падняў трубку, сказаў, што Алега, сапраўды, ужо няма ў жывых, і няхай нехта прыязджае з моцнымі нервамі, бо, магчыма, ён памёр не сваёй смерцю.

Дзесьці ў 7 гадзін раніцы Віця і Толік прыехалі з горада. Яны былі сумныя і збянтэжаныя. Ад іх я даведалася, што Алега затрымалі каля самага інтэрната, адвезлі у медвыцвярэзнік, дзе ён памёр. Цяпер Алег знаходзіцца ў моргу. У Слонім я паехала сама. Высветлілася, што мой сын афіцыйна не быў зарэгістраваны ні ў моргу, ні ў прыёмным пакоі бальніцы, аб чым нам паведамілі медыкі, калі мы прыехалі даведацца пра Алега. Трэба было ісці ў міліцыю, каб высвятліць, што ўсё ж здарылася. З сабой узяла сваячку Дэйка Алену, яна медык па адукацыі, ды і наогул, жанчына моцная.

(Працяг на 2 стр.)

## Чытайце ў нумары:



## Навагодні падарунак

Адміністрацыя аўтапарка №3 мае намер на час зімовых канікулаў выдзяляць аўтобусы калектывам школ на льготных умовах. Кошт перавозак будзе амаль у паўтары разы таннейшы звычайных тарыфаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**Здарэнні**

## ПАХМЯЛІЎСЯ...

**Жыхар вёскі Пятралевічы С. вырашыў пахмяліцца і залез у суседнюю хату, дзе напярэдадні праходзілі памінкі.**

Злодзей напхаў у сумку посуд і іншыя рэчы і хацеў уцячы, але людзі схапілі яго і перадалі міліцыі.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ**

## СМЕРЦЬ НА РЭЙКАХ

**У суботу, 6 снежня, здарыўся трагічны выпадак на слонімскай чыгунцы.**

Пад колы прыгараднага цягніка Ваўкавыск-Баранавічы кінулася 67-гадовая жыхарка Слоніма Х., якая на месцы здарэння загінула. Па словах работніка Баранавіцкай транспартнай пракуратуры Уладзіміра Яфімава, гэта было самазабойства. Але пакуль невядомы прычыны, якія прымусілі старую жанчыну пайсці на суіцыд.

**Алег ТАЧОНЫ**

## У Альбярціне будзе свой базар

**4 снежня ў СШ№7 адбылася сустрэча жыхароў мікрараёна Альбярцін з кіраўнікамі служб горада.**

Асноўныя пытанні, якія хвалявалі людзей — гэта цеплазабеспячэнне, дрэннае асвятленне двароў ноччу, непрацуючыя радыёкропкі, кепская тэлефонная сувязь. Гэтыя праблемы кіраўнікі паабяцалі хутка выправіць.

А вось з рамонтам дарогі і водаправода па Баранавіцкай вуліцы грамадзян прасілі пацярпець да вясны.

Крыўдзіліся грамадзяне вуліцы Баранавіцкай і на тое, што калі на шашы Слонім-Баранавічы пабудавалі пост ДАІ, то іх вуліца стала аб'ездным шляхам для тых аўтамабілістаў, якія не жадаюць патрапіць на вочы супрацоўнікаў міліцыі. Старшыня гарвыканкама пагадзіўся, што сапраўды пост трэба было ставіць у іншым месцы.

Жыхары з вуліцы Цыялкоўскага звярталіся з просьбай падвесці да іх дамоў прыродны газ, але ім было прапанавана зрабіць гэта за ўласныя грошы, бо ў гарадскім бюджэце пакуль няма сродкаў. З-за адсутнасці грошай не пабудуюць у пасёлку і новы магазін, але ў раёне вуліцы Паркавай адчыняць рынак.

**Ірына АНТОНАВА**

## Новые правила для таксистов

**С 1 января 1998 года все автомобили такси в Беларуси должны быть обязательно оснащены фонарями-плафонами и таксометрами.**

Такие требования содержатся в новых Правилах перевозок пассажиров в автомобилях такси. По сообщению Министерства транспорта и коммуникаций, действие новых правил распространяется как на физических, так и на юридических лиц. Кроме того, теперь все, кто желает работать таксистом, обязаны пройти специальную профессиональную подготовку и получить соответствующее свидетельство. Известно также, что оказание услуг по перевозке пассажиров в такси производится по лицензии. Как подчеркнули в Министерстве транспорта и коммуникаций, в случае невыполнения предъявляемых требований, к таксистам-нарушителям (как к частникам, так и к работникам таксопарков) будут применены строгие штрафные санкции.

**БелаПАН.**

## АРЗ пашырае сувязі

**Нядаўна аўтарамонтны завод заключыў дамову супрацоўніцтва з Варонежскім механічным заводам.**

Аказваецца, што расіянам спадабаліся запчасткі, выробленыя слонімцамі — гільзы для рухавікоў аўтамабіляў ГАЗ-53 і ГАЗ-24.

Як паведаміў майстар маторнага цэха Іван Засім, у лістападзе варонежцам адпраўлены тры тысячы штук гэтых вырабаў.

У сваю чаргу расійскія партнёры пастаўляюць нашым аўтарамонтнікам поршні і кольцы для рухавікоў.

Добрыя вытворчыя сувязі існуюць у аўтарамонтнікаў і з Лідскім ліцейна-механічным заводам, якія пастаўляе слонімцам нарыхтоўкі ліцця для вырабу запчастак.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ПРАЕЗД ДАРАЖАЕ

**Загадам Міністэрства транспарту і камунікацый павялічаны тарыфы на праезд у прыгарадным аўтатранспарце.**

Кошт білетаў павялічыўся на 4,7 працэнта, або на 20 рублёў за кожны кіламетр. Пры гэтым паездка ў выхадныя дні будзе даражэйшая, чым у будні. Напрыклад, у Партызанаўку білеты цяпер каштуюць адпаведна 20700 і 15300 рублёў, а ў Кракотку — 30500 і 22500 рублёў. Праезд у міжгародніх аўтобусах пакуль не падаражаў.

**Алег ТАЧОНЫ**

## ШПАГАТ – РЭЧ ПАТРЭБНАЯ

**Акцыянернае таварыства «Альбярцін» пачало выпускаць шпагат.**

Гэта адзінае прадпрыемства ў Беларусі, якое асвоіла выпуск падобнага віду прадукцыі.

Заказы на шпагат ужо паступілі з абутковых фабрык, а таксама з прадпрыемстваў, што робяць тавары для школьнікаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ТЭЛЕПЕРАДАЧА ПРА ТЭАТР

У сярэдзіне студзеня наступнага года Беларускае тэлебачанне пачне здымаць тэлеперадачу «А ў Слоніме – прэм'ера».

Гэта 30-хвілінная перадача раскажа пра гісторыю тэатральнага мастацтва нашага горада, пра сённяшнія праблемы Слонімскага тэатра, пра тое, як ідзе будаўніцтва памяшкання пад тэатр і г.д.

Над перадачай працуе рэжысёр БТ з Мінска Ігар Мяцельскі, які з гэтай нагоды нядаўна пабываў у нашым горадзе.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## С оценкой «хорошо»

**На днях закончилась итоговая проверка в Слонимской механизированной бригаде. Свое боевое мастерство демонстрировали все 11 воинских подразделений части.**

Комиссия, возглавляемая генерал-майором Валерием Фроловым, оценив результаты боевых стрельб, инженерной, технической и государственно-правовой подготовки гвардейцев, выставила общую оценку «хорошо».

Особенно отличились воины 7-го танкового батальона под командованием подполковника Геннадия Голени и мотострелки 2 батальона, где командиром подполковник Валерий Гапоненко.

С первого снаряда поразили все цели на полигоне артиллеристы подразделения полковника Александра Пекаря.

**Валентин ЧУРИЛО**

**Афіцыйна**

## Паміраем паціху

**Дэмаграфічная сітуацыя, якая цяпер склалася ў Гродзенскай вобласці, у спецыялістаў не ўнушае аптымізму.**

Па даных статыстыкі, за 9 месяцаў гэтага года колькасць насельніцтва ў рэгіёне скарацілася на 4,4 чалавека; смяротнасць склала 12,5 тысячы. Атрымліваецца, што паказчык смяротнасці перавысіў узровень нараджальнасці ва ўсіх без выключэння сельскіх раёнах і ў горадзе Слоніме. Апрача таго, у гэтым годзе за межы Гродзенскай вобласці выехалі 13,5 тысячы чалавек, прыбылі — 13,2 тысячы.

**БелаПАН**

# Алег дадому не вярнуўся...

Думаю, калі што, яна мне дапаможа. Мы прыйшлі з ёй ў міліцыю. Яна мяне супакойвае: «Марыя, ты гавары спакойна, не павышай на іх голас, гэта ж міліцыя, мы ж не ведаем, можа сапраўды Алежак вінаваты». Прыйшлі ў дзяжурную часць. Гаворым: «Мы хочам трапіць на прыём да начальніка міліцыі». «Па якому пытанню?». «Па пытанню гібелі майго сына», — кажу. «Пасядзіце. Тут ужо з Гродна працуюць», — адказваюць. Праз хвілін 10 прыйшоў нейкі міліцыянер і сказаў, каб мы зайшлі ў кабінет. Там было два гродзенскіх міліцыянера, адзін — нібыта намеснік начальніка міліцыі і яшчэ адзін, малады, вельмі добра мяне прыняў. І яшчэ там быў следчы пракуратуры Пашкоўскі.

На мне было апранутае паліто, у якім я каля хаты ў вёсцы хаджу і пуховая хустка. «Чаго вы хочаце?» — пытаюцца. Я гавару ім, што прыйшла даведацца, дзе яны знайшлі майго сына, у якім стане, пры якіх абставінах ён трапіў у міліцыю, чаму ўжо ў моргу? Яны мне кажуць: «Вашага сына затрымалі на вуліцы Яршова ў 20.20 вечара. Ён ішоў дахаты п'яны». Я іх перабіваю: ён ішоў п'яны ці ляжаў на снезе? «Не, ён ішоў». А чаму вы яго забралі? «Мы маем права падбіраць п'яных. Мы адвезлі яго ў выцвярэзнік і паклалі там у пакой, а праз дзве гадзіны вашаму сыну раптам стала дрэнна і ён стаў паміраць. Мы выклікалі фельчара з медвыцвярэзніка. Ён аказваў дапамогу, рабіў штучнае дыханне, але няправільна, мусіць, зрабіў, таму ў вашага сына з рота і носа пайшла кроў. У выніку ён памёр». Мне стала зноў дрэнна. Я трошкі аддыхалася, а яны мне гавораць: «Потым мы выклікалі «хуткую дапамогу». Прыехаў урач, і пераканаўшыся, што чалавек мёртвы, паехаў». (Аднак, пазней, па словах работнікаў «хуткай дапамогі», калі той урач вярнуўся з медвыцвярэзніка, то сказаў: «Жах, такога я яшчэ не бачыў — ляжыць мёртвы малады чалавек увесь у крыві, падлога, сцены ў крыві...». Па мяркаванню ўрача столькі крыві не магло быць пасля правядзення штучнага дыхання). «Ён памёр хутка, таму мы яго завезлі — ускрылі, вось вам дакументы. Забірайце сына хутчэй і хавайце», — кажа следчы Пашкоўскі. А я хоць у стрэсе была, але ўсё ж кажу: слухайце, а на якой падставе вы яго так тэрмінова ноччу ўскрылі? А гродзенскі следчы, ведаеце, смяецца з мяне. Я яму кажу: чаго вы на мяне так яхідна глядзіце? Таму што я ў такім выглядзе? Вы што думаеце, калі я жанчына з вёскі, то нічога не разумею?! Яны гавораць: «Мы не ведалі, куды паведаміць». І ў той жа час аддаюць мне пашпарт, вадзіцельскія правы, тэхнічны пашпарт сына. Усё гэта ў партаманэце яго ляжала. Я пытаюся: А гэта дзе было? «У яго ў кішэні, у куртцы». Дык вось жа адрас, чаму вы не пазванілі жонцы? Я ўсё зразумела. Мы там пасварыліся. Яны настойліва прасілі, загадвалі мне забраць цела сына. Я ў іх зноў пытаюся: чаму вы ноччу ўскрылі цела?

Алена, як медык, гаворыць: «Я ўсё жыццё ў рэанімацыі працую, ведаю, што калі чалавек памірае, то павінен дзве гадзіны ляжаць пасля смерці, ускрываць яго можна праз 6-8 гадзін». —Якая прычына смерці майго сына? — пытаюся. Яны мне гавораць: «Ваш сын быў п'яны і памёр ад атручвання алкаголем. У яго ў страўніку мы знайшлі 3 літры алкаголю». Я гавару: вы што хлопцы? Я ведаю свайго сына, ён дзевяць гадоў працаваў шафёрам. Так, ён мог выпіць, як і ўсе маладыя людзі.

Сына я забіраць не буду. Буду дамагацца паўторнай экспертызы. Я законна прывязу новага дзяржаўнага эксперта. Дзе я магу ўзяць дазвол на паўторнае ўскрыццё? Яны мне гавораць: «Мы не маем права даць». —А хто можа даць? «Пракурор», — кажуць. Гэта была субота. Я прачытала, што ў пракуратуры дзень прыёму наведвальнікаў у суботу з 10.00 да 12.00, але пракуратура была зачынена, хаця, як раз быў час прыёму. Праз людзей у міліцыі даведалася, дзе жыве пракурор, яго тэлефон. Званю. Тэлефон пракурора маўчаў. Мы нанялі машыну, паехалі да яго. Знайшлі кватэру. Зачынена. Тады я звязалася з адным патолагаанатамам. Ён мяне выслухаў і гаворыць: «Марыя Аляксееўна, не пакідайце гэтую справу, тут нешта нячыста. Я працую каля 30 гадоў у бальніцы і ніколі ноччу мы нікога так хутка не ўскрывалі, тым больш пры такіх абставінах. Трэба было выклікаць вас і жонку».

Мы зноў пайшлі на кватэру да пракурора. Яго не было, але жонка сказала, што ён хутка павінен прыехаць. Праз пэўны час зноў пазваніла ў кватэру. Дзверы адчыніў ён сам. Я папрасіла прабачэння. Кажу, што хачу ўзняць пытанне пра гібель майго сына. Каб вы чулі, якая ў мяне з ім была размова!.. Я прасіла, каб ён даў дазвол на паўторнае ўскрыццё цела майго сына, каб пахаваць яго па праўдзе. А ён мне тое ж самае: «Забірайце свайго сына і хавайце». Я гавару — хай мой Алег паляжыць у моргу. Я заўтра да вас прыйду, але сына ўсёроўна не забяру. А ён мне гаворыць: «Ідзіце жанчына, я размаўляць з вамі на гэту тэму не хачу. Вы мяне не знойдзеце, бо я на два дні з'еду са Слоніма». Я пайшла, як апляваная і абражаная. Дзе знайсці гэтую праўду?

Я пераканалася, што ў Слоніме нічога не даб'юся і звярнулася ў адміністрацыю прэзідэнта. Дзванілася ў прыёмную прэзідэнта. Дзяжурны мяне ўважліва выслухаў і паведаміў, што звяжацца са слонімскім кіраўніцтвам, каб яно паспрыяла зрабіць паўторную судмедэкспертызу. Пазней я пазваніла старшыні райвыканкама Станіславу Здановічу. Ён запэўніў мяне, што зробіць усё магчымае і параіў звязацца з судмедэкспертам Скрыпко, які ўскрываў сына. Пазваніла Скрыпко. Ён мне сказаў, што яму ў дзве гадзіны ночы загадалі тэрмінова з'явіцца ў міліцыю на ўскрыццё трупа. Майго сына ён убачыў у калідоры медвыцвярэзніка. Куртка ляжала каля Алега, на спіне быў невялікі сіняк. Яму загадалі тэрмінова яго ўскрыць. «Ведаеце, жанчына, — сказаў ён, — я на рабоце і вымушаны выконваць загады начальства. Труп адвязлі ў морг. І ў 3.20 я яго ўскрыў. У выніку паставіў дыягназ — атручванне алкаголем».

Раніцай у панядзелак я зноў паехала да пракурора. Калі зайшла ў яго кабінет, ён адразу мне сказаў: «Дык вы што, цела свайго сына яшчэ не забралі? Тады даю дазвол на паўторную экспертызу, якую будзе праводзіць гродзенскі спецыяліст». Калі гродзенскі эксперт прыехаў у пракуратуру, то супрацоўнікі сабраліся ўсе ў кабінеце намесніка пракурора. Калі нарэшце мяне выклікалі туды, гродзенскі эксперт запытаўся: «Чаму вы не згодны з вынікамі экспертызы?». Ён уважліва выслухаў і дазволіў прысутнічаць пры паўторным ускрыцці незалежнаму эксперту альбо хірургу. Мне таксама прапанавалі прысутнічаць. Я разумела, што мне трэба было так і зрабіць, але сэрца падказвала, што пасля гэтага і мяне будуць хаваць. Таму я не адважылася. Пасля ўскрыцця гродзенскі эксперт сказаў, што «ён вымушаны канстатаваць тую ж самую прычыну смерці, што і яго слонімскі калега — атручванне алкаголем».

Тым часам, следчы пракуратуры Пашкоўскі некалькі разоў пытаўся ў маёй сястры Валі, ці будзем мы яшчэ куды-небудзь скардзіцца пасля правядзення паўторнай экспертызы.

Самае дзіўнае тое, што калі мы забіралі Алега з морга, то выявілі, што кофта і штаны былі мокрымі пасля мыцця, а вось куртка і бялізна былі сухія. Мне таксама яшчэ Скрыпко казаў, што бачыў бурыя плямы на штанах Алега.

***Дыктафонны запіс маналога Марыі Дэйка друкуецца з некаторымі скарачэннямі.***

## ПОЧТА *Здравствуй, редакция!*

***

По-разному относятся читатели к публикациям в «Газеце Слонімскай». Кто-то видит в ней только сенсации, кто-то усматривает какую-то скрытую на время политику, а большая часть читателей воспринимает газету как нормальное явление в жизни Слонима. И в этом нет ничего удивительного: газета-то молодая, хотя имеет свою историю. Время покажет, будет ли газета выразителем чаяний простого слонимчанина. Одно скажу – уже само рождение второй газеты в районе дело весьма хорошее. Безусловно, качество любого издания зависит от коллектива.

Однажды случай привел меня в редакцию и я воочию убедился, насколько профессионален этот коллектив, насколько предан своему делу.

Теперь, конкретно о том случае. В 23 номере газеты за ноябрь с.г., по-моему мнению, был допущен ляпсус: старую фотографию праздничной демонстрации, на которой был я со своими коллегами по работе, редакция переделала в коллаж, где не только отражен праздничный Октябрь, но и призыв поддержать «Газету Слонімскую».

Я был приятно удивлен, когда получил искренние извинения от редактора, а это уже серьезно.

Я не отношу себя к почитателям «Газеты Слонімскай». Но все же в преддверии Нового года мне хочется пожелать ее коллективу плодотворного труда, творческих успехов и главное – «... сеять разумное, доброе, вечное», пропагандировать мир и согласие в обществе, дарить радостное настроение и избежать участи бульварной газетенки.

**Е. РУДНЕВ, пенсионер**

***

Пишет вам ученица 11 класса. Газету вашу очень люблю и читаю с удовольствием. Несмотря на то, что наш Слоним маленький, вы всегда находите что-то интересное, важное, и печатаете материалы со вкусом. Очень нравится ваша страница с конкурсами и стихами ребят. Хочу пожелать вам удачи и держаться на той же волне.

**С уважением, Светлана.**

***

Через вашу газету наша семья хотела бы выразить слова благодарности директору СШ№7 Серкевич Надежде Андреевне и заместителю директора Явоǀровскому Олегу Марьяновичу. Сколько мы не обращались к ним за помощью, всегда находили взаимопонимание и поддержку.

**Семья Ламеко.**

## ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

# Вас прымаюць на работу?

***Паважаная рэдакцыя! Пры прыёме на работу адміністрацыя запатрабавала ад мяне характырыстыку з былога месца працы. Ці правільна гэта?***

***Машко Н.В., г. Слонім.***

У адпаведнасці з артыкулам 19 Кодэкса Законаў аб працы Рэспублікі Беларусь пры прыёме на работу забараняецца патрабаваць ад грамадзян дакументы, акрамя прадугледжаных заканадаўствам.

Пералік дакументаў, якія грамадзянін павінен прадставіць наймальніку пры прыёме на работу, замацаваны ў Тыповых правілах унутранага працоўнага распарадку, якія зацверджаны пастановай Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь №56 ад 19 мая 1994 года.

Згодна з гэтымі правіламі наймальнік пры прыёме на работу абавязаны патрабаваць, а грамадзянін павінен прад'явіць наймальніку:

а) дакумент, які пацвярджае асобу (пашпарт, ваенны білет для звяволеных з Узброеных Сіл, пасведчанне аб нараджэнні для асоб ва ўзросце ад 14 да 16 гадоў, даведку аб вызваленні для асоб, якія адбывалі пакаранне, звязанае з пазбаўленнем свабоды);

б) працоўную кніжку, за выключэннем упершыню паступаючых на работу, а таксама сумяшчальнікаў;

в) дыплом ці іншы дакумент аб адукацыі і прафесійнай падрыхтоўцы, калі гэта прадугледжана заканадаўствам;

г) накіраванне на работу ў лік броні для асобных катэгорый работнікаў у адпаведнасці з заканадаўствам;

д) заключэнне медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі аб стане здароўя (для інвалідаў);

е) дэкларацыю аб даходах, медыцынскае заключэнне аб стане здароўя, а таксама дакументы, якія падцвярджаюць іншыя абставіны, што маюць адносіны да работы, калі іх прад'яўленне прадугледжана заканадаўствам.

Прыём на работу без вышэй названых дакументаў не дапушчаецца (пункт 9 Тыповых правіл унутранага працоўнага распарадку).

З другога боку, наймальніку забаронена патрабаваць ад грамадзяніна, што паступае на работу, дакументы, якія не прадугледжаны заканадаўствам: даведку з месца жыхарства, характарыстыку з апошняга месца работы, дакумент з міліцыі аб адсутнасці судзімасці і г.д.

У даным выпадку, патрабаванне ад вас характарыстыкі пры прыёме на работу з'яўляецца грубым парушэннем дзеючага заканадаўства.

**Валянцін ЧУРЫЛА, юрыст**

## ГОРАД *Едзе па вуліцы аўтобус*

# У Слоніме кожны трэці пасажыр — ільготнік...

Як вядома, усё новае – добра забытае старое. У Слоніме ўжо некалькі гадоў запар у грамадскім транспарце зноў, як некалі, працуюць кандуктары. Вяртанне да ранейшага метаду работы не толькі дало магчымасць працаўладкаваць 47 чалавек у якасці кандуктараў, але такім чынам аўтапарк №3 павялічыў акупляемасць перавозак на гарадскіх маршрутах амаль удвая. Напрыклад, за 10 месяцаў бягучага года яна склала 71,4%. Розніца паміж выдаткамі і даходамі дацыруецца з мясцовага бюджэту і яна склала 4,3 мільярды рублёў. Датацыя дапамагае толькі зводзіць канцы з канцамі. А для аднаўлення парка машын і набыццё запчастак не хапае грошай.

Сёння аўтапарк №3 мае 76 аўтобусаў, з іх 30 абслугоўваюць горад. Большасць машын даўно выпрацавалі свой матарэсурс і патрабуюць спісання. Толькі дзякуючы намаганням і майстэрству работнікаў рамонтнай службы прадпрыемства, удалося наладзіць аднаўленне кузавоў аўтобусаў і некаторых дэталяў.

За апошнія два гады прадпрыемства здолела купіць тры аўтобусы: два – з Лідскага завода «Нёман» і адзін – з Пінскага «Амкадор». Кошт адной машыны – каля 2,5 мільярдаў рублёў.

На думку дырэктара аўтапарка №3 Уладзіміра Нікалаева, зменшыць страты гарадскога пасажырскага транспарта яшчэ можна, калі вырашыць пытанне льготнага праезду ў аўтобусах.

Высвятляецца, што толькі ў горадзе налічваецца 3437 чалавек, якія карыстаюцца льготамі і бясплатна ездзяць на аўтобусах. Акрамя таго, шмат ільготнікаў, што плацяць за праезд толькі палавіну яго кошту. Падлічана, што сёлета ад агульнай колькасці перавезеных пасажыраў 36,8% склалі льготнікі, з іх 9,4% – ездзілі бясплатна.

Вядома, гэтыя людзі заслужылі льготы, але можа было б лепш, калі яны атрымлівалі ад дзяржавы грашовую кампенсацыю, а не льготныя пасведчанні. Накшталт таго, як выдаюць грошы на пакупку бензіну інвалідам.

Вось і выходзіць, што без дапамогі дзяржавы аўтобус ездзіць не зможа.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**От редакции**

По просьбе руководителя комитета профсоюза работников госучреждений **Александра Кирилловича Светлова**, одного из героев публикации Ивана Чугуева «Кто в почете, тот и на работе» («ГС» №27) сообщаем, что он трудится на выборной должности на полставки.

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.

Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук. Юрыдычны адрас : 231800, г. Слонім, вул.Брэсцкая, 109–1–12.

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. E-mail: rues@slonim.belpak.grodno.by

Падпісана да друку 11 снежня 1997 г. Час падпісання 8:00. Падпісны індэкс 64042.

Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Наклад 5.470 экз. Заказ № 3038

# Сябры!

# Да канца падпіскі застаўся ўсяго 1 (адзін) тыдзень.

# «Газета Слонімская»




У наступным годзе «Газета Слонімская» штотыдзень будзе выходзіць на ВАСЬМІ старонках. Падпісацца на нашу газету на першае паўгоддзе 1998 года Вы можаце ва ўсіх паштовых аддзяленнях горада і раёна. Нагадваем, што толькі ў нас самая нізкая цана падпіскі:

**на месяц — 10.000 руб., на квартал — 30.000 руб., на паўгода — 60.000 руб.**





# НАША СПАДЧЫНА






# Партызан па мянушцы «Шут»

Да нас у рэдакцыю завітаў жыхар вёскі Пятралевічы Іван Крынчык. Ён прынёс рукапіс сваіх успамінаў пра арганізатара партызанскага руху на Слонімшчыне ў гады апошняй вайны Івана Юшко і пра яго трагічны лёс. Імя Юшко раней не ўзгадвалася ва ўспамінах партызанаў. Заставалася толькі спадзявацца на архівы. Мне пашчасціла. У Нацыянальным рэспубліканскім архіве ў Мінску захоўваецца дакумент «Баявая справаздача аб партызанскім руху Ленінскай партызанскай брыгады». Пры дапамозе гэтага дакумента і ўспамінаў Івана Крынчыка сёння мы паспрабуем асвятліць яшчэ адну таямнічую старонку гісторыі Слонімшчыны часоў Другой сусветнай вайны.

Іван Юшко, ураджэнец хутара Мошкі, што некалі стаяў паміж вёскамі Клімавічы і Вострава, быў актыўным удзельнікам беларускіх падпольных арганізацый. Верагодна, за гэта ён цярпеў пераслед з боку польскіх уладаў.

У 1935 годзе Юшко нелегальна перайшоў мяжу і патрапіў на тэрыторыю БССР. Вярнуўся Іван у родныя мясціны летам 1941-га, калі тут ужо гаспадарылі нямецкія акупанты.

Да вясны 1942 года Іван Юшко нелегальна жыў у братоў Свярэпікаў, на хутарах Янава, каля вёскі Едначы. Ён падтрымліваў сувязь з арганізатарам антыфашысцкага падполля на Слонімшчыне Феакцістам Міско. Напярэдадні Вялікадня 1942 года Юшко сабраў і ўзброіў 16 добраахвотнікаў з ліку мясцовых жыхароў і акружэнцаў-чырвонаармейцаў. Так стварыўся першы партызанскі атрад на поўначы Слонімшчыны. Неўзабаве мсціўцы правялі аперацыю па разгрому Сянкоўшчыцкага і Галынскага паліцэйскіх пастарункаў, Дзярэчынскага гарнізону.

Атрад хутка рос і напрыканцы чэрвеня 1942 года налічваў больш 100 чалавек, адначасова расла яго папулярнасць сярод мясцовага насельніцтва. Пазней да яго далучыліся былы савецкі работнік Павел Булак і старэйшы лейтэнант Барыс Булат. Яны неўзабаве вырашылі адхіліць Юшко ад камандавання атрадам, абвінаваціўшы яго ў «бытовой распущенности, проповедовании националистической идеи, что вызвало противодействие со стороны командиров Красной Армии и советских работников, воспитанных в чувствах долга к Советской Родине». Юшко пакінуў лагер, а з ім ад Булака і Булата перайшла да яго і большасць партызанаў.



Праз нейкі час Івана Юшко змоўшчыкі запрасілі на перамовы. На сустрэчу, якая адбылася ў раёне Вострава, ён прыехаў са сваім ад'ютантам Федзям-«ласточнікам». Булак прапанаваў Юшко пагаварыць сам-насам. Пад час перамоў Юшко застрэлілі. Ад'ютант здолеў уцячы.

Пасля забойства атрад Юшко быў падзелены паміж Булаком і Булатам, але некаторыя «шутоўцы» (атрад Юшко ў народзе зваўся «атрад Шута») увогуле пакінулі партызаніць.

Некаторыя людзі і сёння памятаюць Івана Юшко, інтэлігентнага, у акулярах і сінім касцюме, 45-гадовага патрыёта.

**Сяргей ЁРШ**

***На здымку: партызаны ў Ліпічанскай пушчы. 1944 год.***

**Сёння мы прапануем Вам новую тэматычную старонку «Наша спадчына». У ёй будуць друкавацца матэрыялы пра невядомыя эпізоды старажытнай і найноўшай гісторыі Слонімшчыны, цікавыя дакументы, фотаздымкі і ўспаміны.**

**Мы запрашаем усіх нашых чытачоў да супрацоўніцтва. Дасылайце і прынасце ў рэдакцыю свае артыкулы, старыя здымкі, газеты, дакументы. Будзем разам пісаць праўдзівую гісторыю роднага краю!**

## НАШ КАЛЯНДАР

**12 СНЕЖНЯ 1796** губернскі горад Слонім зноў стаў павятовым і ўвайшоў у склад Літоўскай губерні.

У гэты ж дзень, у 1886 годзе ў вёсцы Блошна нарадзіўся Най Лур'е, яўрэйскі пісьменнік. Памёр у 1960 годзе.

**14 СНЕЖНЯ 1795** года ўказам расійскай імператрыцы Кацярыны II была створана Слонімская губернія з цэнтрам у Слоніме. У яе склад уваходзілі Слонімскі, Гродзенскі, Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі, Ваўкавыскі, Навагрудскі і Лідскі паветы.

У гэты ж дзень 1903 года ў Слоніме, на сходзе рабочых, адзначаўся дзень памяці дзекабрыстаў.

У ноч з **16/17 СНЕЖНЯ 1945** года бандыцкая група М.Скляра забіла работніка Слонімскага райфінаддзела Георгія Фенько і яго сям'ю. Злачынцаў злавілі і пакаралі.

**17 СНЕЖНЯ 1935** года ў Слоніме праходзіў судовы працэс над палітычнымі зняволенымі камуністычнага падполля.

# Хто забіў Ганну Кароль?

Нядаўна споўнілася пяцьдзесят гадоў самаму гучнаму палітычнаму забойству на Слонімшчыне.



Першыя пасляваенныя гады асацыіруюцца не толькі з агульнай калектывізацыяй, але і з «бандытызмам», тэрорам супраць «ворагаў народа».

1 снежня 1947 года ў Шылавічах была забіта дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 45-гадовая Ганна Кароль.

Ганна Кароль рана далучылася да падпольнага нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Хутка пра яе актыўную палітычную дзейнасць даведалася паліцыя. Двойчы Кароль была асуджана на доўгія тэрміны турэмнага зняволення, сядзела ў Картуз-Бярозаўскім канцлагеры...

У 1939-41 г.г. Кароль працавала на розных пасадах, а ў 1944 годзе была выбрана старшынёй Шылавіцкага сельсавета. І сёння шылаўцы ўспамінаюць Ганну Іванаўну добрым словам. Яна хутка пасябравала з насельніцтвам, імкнулася дапамагчы вяскоўцам чым магла, нават у тыя цяжкія пасляваенныя гады, калі партыя патрабавала хутчэйшага стварэння калгасаў, а прыватнікі-сяляне абкладаліся вялікімі падаткамі.

У сакавіку 1947 года Г. Кароль уступіла ў партыю, была абрана дэпутатам Вярхоўнага Савета. Яе папулярнасць сярод насельніцтва расла. Кароль паважалі за самаахвярную працу, якую яна праводзіла, як старшыня сельсавета і дэпутат.

1 снежня 1947 года стрэл праз акно абарваў жыццё гэтай мужнай жанчыны. Да гэтага часу не ўсё зразумела ў забойстве Кароль. Афіцыйна лічыцца, што яна загінула ад рук «ворагаў народа». Неўзабаве былі арыштаваны і забойцы. Але пасля прайшлі чуткі, што за краты трапілі ні ў чым невінаватыя людзі. А яшчэ казалі сяляне, што ад Ганны Кароль такім чынам пазбавілася ўлада, якой яна нібыта не падабалася... Не выклікае сумненняў толькі той факт, што забойства гэта было палітычным.

**Сяргей ЁРШ**

# Что потерял Слоним

Сегодня мы впервые печатаем выдержку документа, который был составлен 53 года назад. В нем отмечены те ценности, которые исчезли из Слонимского краеведческого музея в годы войны. Как утверждает в своих воспоминаниях бывшая его сотрудница Надежда Гайдук, к разграблению их приложили руку не только немецкие солдаты... Документ дается в сокращении. Отметим только, что общая цена утерянных ценностей на сентябрь 1944 года составляла почти один миллион рублей. На то время это была фантастическая сумма.

**Акт**

30 сентября 1944 года, город Слоним.

Мы, нижеподписавшиеся члены комиссии, в составе представителей от горсовета: инспектора Народного образования Руденко Дмитрия Григорьевича, электромонтера Жилинского Николая Алексеевича, бухгалтера конторы связи Люля Станислава Михайловича, с участием экспертов Новика Сергея Михайловича, директора Слонимского Историко-Краеведческого музея, Стабровского Иосифа Иосифовича, старшего научного работника и основателя этого музея, составили настоящий акт об ущербе, причиненном немецко-фашистскими захватчиками и их сообщниками Слонимскому музею, находящемуся по улице Пушкина в доме № 42.

1. Шахматная доска гетмана Льва Сапеги XVI столетия из черного дерева и слоновой кости с инкрустацией. Состоит из двух половин (перед империалистической войной 1914 года Киевский музей предлагал за нее триста рублей золотом).
2. Английский часовой механизм без оправы XVII столетия.
3. Часы конца XVIII столетия.
4. Большие, круглые серебряные часы, английские, XVIII столетия.
5. Бронзовая медаль с изображением Христа с надписью на древнееврейском языке.
6. Статуэтка «Преподобного Нила Сорского» — резьба по дереву.
7. Коллекция монет разных государств от начала I-го века. В том числе серебряных монет весом полкилограмма.
8. Серия разных значков, медалей, крестов, орденов разных государств: серебряные, бронзовые и позолоченные.
9. Семь портретов и двадцать три картины (масло) на полотне в позолоченных рамках: голландских, русских и польских художников начала XVI века.
10. 514 книг старых изданий на русском, польском, латинском, французском, шведском, немецком и других языках.
11. Симфоньен — музыкальный ящик с железными пластинками XIX (?) столетия.
12. Старинная фарфоровая и серебряная посуда и хрустальные бокалы XVII века: царская, княжеская, графская и прочих вельмож.
13. Медаль-монета 138 года до нашей эры времен Симона Маккавея, серебряная (новодел) с надписью на древнееврейском языке.
14. Иконка бронзовая XVII века с изображением распятого Христа. Художественная ценность.
15. Скрипка старинная.
16. Коллекция фотографий раскопок курганов. Альбом с рисунками до 3000 экземпляров.
17. Научные труды археолога Иосифа Иосифовича Стабровского.
18. Венский микроскоп Рейхерта с двумя объективами в полированном красного дерева ящике, с коллекцией препаратов к нему.
19. Фотографический аппарат красного дерева полированный с объективным кольцом, простым объективом, моментальным затвором 18х24 в футляре. Уплачено 200 рублей золотом.
20. Семь венских стульев из гнутого ясеня.
21. Коллекция печатей княжеских и графских XVII столетия (14 штук).
22. Амулет египетский.
23. Письменный прибор белого мрамора с бронзой (старинный).

# Раскаяние отца

«Послушай, сын. Я произношу эти слова в то время, когда ты спишь; твоя маленькая рука подложена под щечку, а вьющиеся белокурые волосы слиплись на влажном лбу. Я один прокрался в твою комнату. Несколько минут назад, когда я сидел в библиотеке и читал газету, на меня нахлынула тяжелая волна раскаяния. Я пришел к твоей кроватке с сознанием вины.

Вот о чем я думал, сын: я сорвал на тебе плохое настроение. Я выбранил тебя, когда ты одевался, чтобы идти в школу, так как ты только прикоснулся к своему лицу мокрым полотенцем. Я отчитал тебя за то, что ты не почистил ботинки. Я сердито закричал на тебя, когда ты бросил что-то из своей одежды на пол.

За завтраком я к тебе тоже придирался. Ты пролил чай. Ты жадно глотал пищу. Ты положил руки на стол. Ты слишком густо намазал хлеб маслом. А затем, когда ты отправился поиграть, а я торопился на поезд, ты обернулся, помахал мне рукой и крикнул: «До свиданья, папа!», я же нахмурил брови и отвечал: «Расправь плечи!»

Затем, в конце дня, все началось снова. Идя по дороге домой, я заметил тебя, когда ты на коленях играл в шарики. На твоих чулках были дыры. Я унизил тебя перед твоими товарищами, заставив идти домой впереди меня. Чулки дорого стоят — и если бы ты должен был покупать их на собственные деньги, то был бы более аккуратным! Вообрази только, сын, что это говорил твой отец!

Помнишь, как ты затем вошел в библиотеку, где я читал, — робко, с болью во взгляде? Когда я мельком взглянул на тебя поверх газеты, раздраженный тем, что мне помешали, ты в нерешительности остановился у двери. «Что тебе нужно?» — резко спросил я.

Ты ничего не ответил, но порывисто бросился ко мне, обнял за шею и поцеловал. Твои ручки сжали меня с любовью, которую Бог вложил в твое сердце и которую даже мое пренебрежительное отношение не смогло иссушить. А затем ты ушел, семеня ножками, вверх по лестнице.

Так вот, сын, вскоре после этого газета выскользнула из моих рук и мною овладел ужасный, тошнотворный страх. Что со мною сделала привычка? Привычка придираться, распекать — такова была моя награда тебе за то, что ты маленький мальчик. Нельзя ведь сказать, что я не любил тебя, все дело в том, что я ожидал слишком много от юности и мерил тебя меркой своих собственных лет.

А в твоем характере так много здорового, прекрасного и искреннего. Твое маленькое сердце столь же велико, как рассвет над далекими холмами. Это проявилось в твоем стихийном порыве, когда ты бросился ко мне, чтобы поцеловать меня перед отходом ко сну. Ничто другое не имеет значения, сын. Я пришел к твоей кроватке в темноте и, пристыженный, преклонил перед тобой колени!

Это слабое искупление. Я знаю, ты не понял бы этих вещей, если бы я тебе сказал все это, когда ты проснешься. Но завтра я буду настоящим отцом! Я буду дружить с тобой, страдать, когда ты страдаешь, и смеяться, когда ты смеешься. Я прикушу свой язык, когда с него будет готово сорваться раздраженное слово. Я постоянно буду повторять как заклинание: «Он ведь только мальчик, маленький мальчик!»

Боюсь, что я мысленно видел в тебе взрослого мужчину. Однако сейчас, когда я вижу тебя, сын, устало съежившегося в твоей кроватке, я понимаю, что ты еще ребенок. Еще вчера ты был на руках у матери, и головка твоя лежала на ее плече. Я требовал слишком многого, слишком многого».

**У. ЛИВИНГСТОН ЛАРНЕД**

***P.S.** Это письмо «Раскаяние отца» — классическая публикация американской журналистики XX века. Первоначально оно появилось в качестве передовой статьи в журнале «Пиплз хоум джорнэл», а позже было перепечатано почти во всех периодических изданиях США.*

# Слонимские студенты в Варшаве

Сейчас шесть юношей и девушек из Слонима учатся в Варшаве. Как живется нашим студентам за рубежом? Об этом согласились рассказать Андрей Куклис и Михаил Белинис. Вот, что они рассказали:

–Польский язык мы начали изучать при костелах еще будучи школьниками. Там же нам и предложили получить высшее образование в Польше. В Минске, в польском посольстве, успешно сдали экзамены по математике, географии и польскому языку и поступили в Варшавский политехнический институт на факультет транспорта. После 5 лет учебы получим диплом инженера-магистра, а еще через 2 года – диплом доктора.

**–Много ли в вашем институте учится иностранных студентов?**

–Кроме нас в Варшаве учатся еще 4 человека из нашего города. Это Малофей Женя, Кондратюк Сергей, Борук Алина и Беляк Наташа. На первом курсе нашего факультета иностранцы – только мы. А на других факультетах учатся студенты из России, Украины, Литвы, Латвии, Кореи, Вьетнама, Македонии и других стран. Поблажек нам нет. Отношение со стороны преподавателей наравне с поляками. Тяжело, но мы стараемся.

**–Обучение платное?**

–Обучение безплатное. А вот за пересдачу семестра приходится платить. Все студенты получают стипендию. На жизнь нам хватает.

**–Где вы живете в Варшаве?**

–В общежитии в 2-х местной комнате. По соседству живут поляки.

**–Чем отличаются польские студенты от вас?**

–Наверное, в первую очередь манерами поведения и стилем одежды. Они более раскованны в общении, но менее аккуратны в одежде.

**–Что вы собираетесь делать после получения диплома?**

–Планов на будущее еще не строим. Надо сначала закончить учебу.

**Светлана КУПИЧ**

ПРАБЛЕМА



# Ці ведаем мы сваіх дзяцей?

Нядаўна ў судзе разглядалася крымінальная справа ў адносінах да непаўналетняга. Ён абвінавачваўся ў крадзяжы. Члены суда і прысутныя ў зале былі вельмі здзіўленыя, калі высветлілася, што школьнік у свой пакой нанасіў каля трыццаці крадзеных аўтамагнітол, а бацькі гэтага нават і не заўважылі. З матэрыялаў следства і паказанняў сведкаў было відаць, што хлопчык рос у матэрыяльна забяспечанай і дабрабытнай сям'і. Усе суседзі і знаёмыя лічылі, што падлетак выхоўваецца належным чынам.

Напэўна, так лічылі і яго бацькі. Аднак падлетак быў прадстаўлены сам сабе, і як высветлілася, на вачах у бацькоў займаўся не тым, чаму яго вучылі.

Але мяне асабліва ўразіла іншая справа, якая сведчыць пра абыякавыя адносіны бацькоў да сваіх дзяцей.

Непаўналетняга Ч. абвінавачвалі ў крадзяжы веласіпеда. Звычайны том справы з пратаколамі, даведкамі, характарыстыкамі. Аднак мне кінулася ў вочы даведка, у якой следчы паведаміў, што маці хлопчыка катэгарычна адмовілася быць законным прадстаўніком сына ў судзе. З тэксту даведкі сведчыла, што прадстаўніком хлопчыка ў судзе пагадзілася быць яго класны кіраўнік. Падчас слухання справы члены суда пераканаліся, што настаўніца ведае свайго вучня значна больш, чым маці. А іх у яе класе дзвяццаць тры. Класны кіраўнік дала поўную ўсебаковую характарыстыку падсуднаму, што ў некаторых прысутных зала суда міжволі на вачах з'явіліся слёзы.

У сваю чаргу маці хлопчыка заявіла ў судзе, што яна лічыць свайго пятнаццацігадовага сына здольным самастойна адказваць за свае ўчынкі, а значыць і абараняць сябе ў судзе.

Невыпадкова пасля гэтага працэсу адзін з членаў суда з гараччу 'адзначыў:

–Скажыце пасля гэтага, якімі мерамі — маральнымі, матэрыяльнымі ці іншымі можна заставіць бацькоў любіць сваіх дзяцей і займацца іх выхаваннем!

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# Талент чытаць вершы

7 снежня ў Беластоку закончыўся VI дэкламатарскі конкурс «Крэсы-97», прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. У ім удзельнічалі 29 лаўрэатаў конкурсаў з Літвы, Латвіі, Чэхіі, Румыніі, Украіны, Расіі. Беларусь прадстаўлялі тры дзяўчыны, у тым ліку і школьніца са Слоніма 16-гадовая Юлія Ільіна.

Яшчэ ў кастрычніку Юля, вучаніца СШ№6, перамагла на конкурсе дэкламацыі польскіх вершаў у Слоніме. Потым на рэспубліканскім конкурсе, які праходзіў 15-16 лістапада ў Гродне, дзе атрымала шанс паехаць на фінал у Беласток. Журы вельмі спадабалася Юліна інтэрпрэтацыя вершаў, высокая культура іх выканання і выдатна падабраны рэпертуар юнай сланімчанкі. Юля чытала верш паэта Адама Шыманьскага «У гадавіну смерці Адама Міцкевіча» і верш самаго Міцкевіча — «Няпэўнасць». Цікава, што ў адрозненне ад сваіх канкурэнтак, якіх рыхтавалі настаўнікі польскай мовы, Ільіну да конкурса падрыхтавала бабуля Ванда Міхайлаўна.

Хаця ў Беластоку Юля і не заняла прызавое месца, але засталася задаволенай сваім выступленнем. «Я была на падобным конкурсе ўпершыню, — гаворыць Юля, — а пераможцы, з Чэхіі, ужо не першы год у ім удзельнічаюць. Іх там добра ведаюць і яны ўжо вопытныя дэкламатары... У наступны раз зноў паспрабую свае сілы ў конкурсе і ўжо буду адчуваць сябе больш упэўнена», — сказала яна.

Юля Ільіна атрымала ганаровы дыплом конкурса «Крэсы-97» і шмат падарункаў. А самае галоўнае — у яе з'явіліся новыя сябры з Латвіі, Румыніі, з якімі яна спадзяецца спаткацца на наступным конкурсе дэкламатарскага майстэрства.

**Сяргей ЁРШ**

***На здымку:** Юлія Ільіна (справа) са сваімі сябрамі ў Польшчы.*



ЗДАРЭННІ

# Са стрэльбай на танцы

**Каля Загрыцькаўскага сельскага клуба здарыўся выпадак, падобны на сюжэт каўбойскага фільма.**

Вечарам, 6 снежня, калі танцы былі ў поўным разгары, са стрэльбай у руках завітаў да клуба малады хлопец. Нядоўга думаючы, стралок некалькі разоў выстраліў. Толькі выпадкова ніхто не пацярпеў.

Пазней высветлілася, што пасля багатага застолля, юнак вырашыў трохі «павесяліцца» з бацькавай стрэльбай.

**Міхась АКУЛКА**

# Ужасно

**Очередная страшная трагедия произошла в Гомеле.**

Трое 16-летних парней одновременно бросились с крыши 10-этажного дома. Случилось это на глазах у потрясенных родителей одного из них. Двое скончались сразу, третий — при транспортировке в больницу. Этот случай расценивается как самоубийство, в связи с чем уголовное дело не возбуждено. Однако назвать причину происшедшего с подростками, которые при жизни не вызывали особых проблем ни у родителей, ни у милиции, затрудняются и те, и другие.

**БелаПАН.**

АДПАЧЫНАК

# Бясплатна на «Оскар»

Днямі ў бары «Оскар» спецыяльна для членаў мясцовай арганізацыі БПСМ адбылася бясплатная дыскатэка.

Аказваецца ў Слоніме зарэгістраваны 32 пярвічныя арганізацыі гэтага саюза, дзе на ўліку стаіць каля 340 чалавек. Аднак на дыскатэку прыйшлі не толькі члены, але і тыя, хто хацеў на дармаўшчынку патанцаваць. Многія з іх прыходзілі па чужых запрашальных білетах.

Кіраўнік слонімскай арганізацыі БПСМ Наталля Рагозік сказала, што «гэтае свята падаранаў моладзі прэзідэнт». «Аднак не трэба забываць і аб тым,» — падкрэсіла яна, «што пасля свята абавязкова прыйдуць і будні». А значыць «Бэпээсэмаўцы» будуць удзельнічаць у суботніках па будоўлі храма, у акцыях міласэрнасці. Цікава, што пасля гэтых слоў пыл многіх слонімцаў крыху ахаладзеў. Мабыць, ніхто з патрыётаў не чакаў такой «радаснай» для сябе перспектывы.

Потым слова атрымалі школьнікі. Больш за ўсіх вызначыўся прадстаўнік СШ№10. Гэты хлопец амаль 10 хвілін з захапленнем прызнаваўся ў каханні да саюза моладзі, хваліў прэзідэнта, не вельмі ветліва выказаўся ў адрас тых, хто супраць іх, і напрыканцы заклікаў уступаць у рады БПСМ пакуль не позна!

Пасля патрыятычная моладзь пачала танцаваць, але дыскатэку «круцілі» толькі да 21 гадзіны.

**Алена СІНЯК**

